*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 45 (153)

10 лістапада 1993 г.

Кошт — 5 рублёў.

## *Жыццё Таварыства*

28 кастрычніка 1993 г. у канферэнц-зале Інстытута эканомікі АН Беларусі прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя акадэмічнай раённай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны. На канферэнцыі абмеркаваны пытанні, звязаныя з выкананнем Закона аб мовах і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай і іншых моў у сістэме Акадэміі, а таксама актуальныя праблемы беларускага нацыянальнага Адраджэння. Асноўны даклад зроблены старшынёй акадэмічнай рады ТБМ Язэпам Стапановічам. Выступілі віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Радзім Гарэцкі, член-карэспандэнт АН Беларусі Уладзімір Рашэтнікаў, доктар філалагічных навук Генадзь Цыхун і іншыя навукоўцы — актыўныя прыхільнікі роднага слова.

Выбрана новая рада ў складзе старшыняў 27 пяршасных суполак, удакладнена яе структура. Старшынёй акадэмічнай рады ТБМ пераабраны Я. Стапановіч — навуковы супрацоўнік Інстытута эксперыментальнай батанікі, кандыдат біялагічных навук.

На канферэнцыі акадэмічнай арганізацыі ТБМ быў прыняты шэраг дакументаў. Публікуем змест некаторых з іх.

«Мы, удзельнікі канферэнцыі акадэмічнай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, прызнаючы несумненныя мастацкія вартасці прапанаванага ў якасці тэкставай асновы будучага гімна верша Янкі Купалы «Маладая Беларусь», разам з тым лічым, што гэты верш не адпавядае патрабаванням да дзяржаўнага гімна па наступных меркаваннях:

— верш залішне метафарычны;

— ён вялікі па аб'ёме, а выбар для гімна асобнай часткі твора выглядае штучна;

— верш напісаны складаным памерам, што не дазволіць напісаць да яго простую і энергічную мелодыю;

— у вершы сустракаюцца асобныя русізмы, што можа мець адмоўны ўплыў на стабілізацыю лексічнага складу літаратурнай мовы.

Для стварэння дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь мы прапаноўваем:

— працягнуць тэрмін конкурсу;

— не абмяжоўваць гэты конкурс адным тэкстам».

Удзельнікі згаданай канферэнцыі лічаць таксама, што трохмоўны праект узору новага беларускага пашпарта трэба сур'ёзна пераглядзець. Трохмоўнае афармленне пашпарта — каланіяльны стэрэатып. Усе, у тым ліку і адроджаныя дзяржавы свету (напрыклад, Летува) у асноўным грамадзянскім дакуменце засведчваюць сваю рэальную незалежнасць. Ёсць дзяржаўная мова і адна з моў міжнародных зносін. Ужыванне на Беларусі трэцяй мовы не мае сэнсу як па практычных, так і эканамічных меркаваннях. Пры наяўнасці ў нашым пашпарце расійскай мовы беларуская ў сённяшніх умовах нацыянальнага нігілізму будзе толькі фармальнай, афішнай з'явай.

Акрамя таго, канферэнцыя лічыць, што пераклады беларускіх імёнаў і прозвішчаў на англійскую мову праз расійскую скажаюць іх першароднасць. Таму мы прапануем запісваць дадзеныя рэквізіты толькі па-беларуску ў кірыліцкім і лацінкавым варыянтах. А імёны па-бацьку зусім зняць, бо гэта адпавядае і беларускай і агульнаеўрапейскай традыцыям.

❖❖❖

Агульны сход ТБМ Савецкага раёна Менска і Цнянскай рады ТБМ распаўсюдзіў зварот, у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «Многія мясцовыя чыноўнікі савецкіх улад нахабным чынам ігнаруюць Законы аб мовах, адукацыі і культуры і не толькі не выконваюць іх, але і чыняць перашкоды ў своечасовым дзеянні іх першачарговых артыкулаў». Сход выступіў супраць саюзу з Расіяй і з патрабаваннем датэрміновых выбараў новага складу Вярхоўнага Савета.

***ПРЭЗІДЭНТ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БАНКА БЕЛАРУСІ С. БАГДАНКЕВІЧ** наведаў Францыю, дзе пад эгідай Сусветнага банка збіраліся прадстаўнікі развітых краін — ЗША, Японіі, Англіі, Германіі і іншых — для абмеркавання шляхоў дапамогі Беларусі ў сувязі з пераходам да рыначнай эканомікі. Добра, што нам стараюцца дапамагчы, але ж трэба і самім нешта думаць і рабіць, каб жыць добра.*

# *Славянскі форум у Браціславе*

З 30 жніўня да 8 верасня ў Браціславе, сталіцы маладой незалежнай Славацкай дзяржавы, праходзіў XI міжнародны з'езд славістаў, у якім удзельнічалі славяназнаўцы (мовазнаўцы, літаратуразнаўцы), мастацтвазнаўцы, фалькларысты і гісторыкі. Навукоўцы з усяго свету з'ехаліся на чарговы кангрэс, які збіраецца кожныя пяць гадоў. Пра арганізацыю з'езда і атмасферу, у якой ён праходзіў, паведаміў нашаму карэспандэнту ўдзельнік з'езда доктар філалагічных навук Г. А. Цыхун.

◆◆◆

*Найперш ён засяродзіў увагу на тым, што беларуская дэлегацыя была на з'ездзе адной з найменшых. Яна налічвала толькі 15 чалавек, у той час як украінская — 60, расійская — 100, а японская (хоць Японія і не славянская краіна) — 26 і г. д. Падбор дэлегатаў у значнай ступені быў прадвызначаны тым парадкам, які існаваў у былым Савецкім Саюзе, дзе кожная рэспубліка мела права на нейкую невялікую квоту.*

*На з'ездзе працавала 20 секцый. Рабочымі мовамі былі ўсе славянскія. Беларускія навукоўцы выступілі з дакладамі на розныя тэмы. Даклад Г. Цыхуна «Арэальныя аспекты фарміравання славянскіх літаратурных моў» быў прачытаны на секцыі «Славянскі дыялектны і этнаграфічны свет з геаграфічнага пункту погляду, або славянская арэалогія». У дакладзе падводзіліся вынікі даследаванняў беларускай літаратурнай мовы ў параўнанні з балгарскай і славацкай. Доктар філалагічных навук В. Мартынаў выступіў з дакладам «Этнагенез славян. Мова і свет». Даклад прафесара А. Мальдзіса «Беларуская культура барока як пасрэдніца паміж заходнеславянскім і ўсходнеславянскім светам» раскрыў значэнне беларускай культуры XVII — першай паловы XVIII ст. у славянскім свеце. З павагай адносіліся ўдзельнікі міжнароднага з'езда славістаў да гісторыі беларускага народа. Вялікую цікавасць у іх выклікалі даклады доктара гістарычных навук М. Біча «Беларускае адраджэнне ў пачатку XX стагоддзя», доктара гістарычных навук, прафесара А. Грыцкевіча «Узнікненне феадальных дзяржаў беларусаў у працэсе ўтварэння дзяржаў у славян». З дакладаў, якія мелі большае дачыненне да Беларусі, Г. Цыхун назваў даклады польскіх навукоўцаў І. Грэк-Пабісавай і І. Марыняковай. Беларускі матэрыял прыводзіўся ў значнай колькасці дакладаў. Ён актыўна выкарыстоўваецца ў апошні час скандынаўскімі лінгвістамі: нарвежцамі, шведамі, фінамі, датчанамі. Г. Цыхун адзначыў таксама, што заходнія славісты, як правіла, добра валодаюць 2—3-мя славянскімі мовамі і выказаў думку, што і ў Беларусі трэба больш адказна ставіцца да падрыхтоўкі славістаў.*

*Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.*

*Адраджэнне*

## Вернем страчаныя назвы

Сем дзесяцігоддзяў камуністычнага рэжыму прынеслі шмат страт для нашай гісторыі. За гэты перыяд у рэспубліцы было знішчана больш помнікаў гісторыі і культуры, чым у час войнаў. Па загаду вышэйшых і мясцовых улад руйнаваліся цэрквы і касцёлы, разбураліся старажытныя гарадзішчы і курганы. Спіс знішчаных помнікаў зойме шмат старонак.

Вялікае і асобнае месца ў гэтым спісе займаюць перайменаваныя населеныя пункты. Назва кожнага паселішча не з'яўляецца выпадковай. Яна звязана з пэўнымі падзеямі мінулага. Закрэсліць гэту назву — значыць зняважыць памяць тых людзей, якія стаялі ля вытокаў гісторыі нашых вёсак і гарадоў. Аднак камуністычныя ўлады глядзелі на гэту справу інакш. Скідаючы з п'едэстала былых манархаў, яны адначасова стваралі помнікі для сябе. Ужо з пачатку 20-х гадоў па ўсёй краіне пракацілася хваля перайменаванняў населеных пунктаў. Як правіла, яны атрымлівалі імёны жывых і памёршых правадыроў бальшавікоў. Да перайменаванняў падыходзілі з ідэалагічных пазіцый. Хіба ж магло пры такіх умовах існаваць і далей старадаўняе мястэчка Раманава, што на Случчыне? Канешне, не, нават нягледзячы на тое, што да царскага дома Раманавых гэта паселішча ніякага дачынення не мела. «Адпомсцілі» Раманавым арыгінальна. У 1921 годзе мястэчка атрымала назву Леніна. Хутка на карце стала цесна ад шматлікіх Ленінскаў, Дзяржынскаў, Калініных, Сталіных і г. д. Да 1952 года ў Любанскім раёне існавала вёска з рэдкай гістарычнай назвай Княжая Магіла. Як жа так? З князямі ў нас, здаецца, ужо даўно «разабраліся». Няхай жа знікне і «несавецкая» назва! І атрымала старажытная вёска імя чырвонага камдзіва Чапаева. Падобны лёс напаткаў і вядомую з XV ст. вёску Божына ў Бярэзінскім раёне. Яе «рэлігійная» назва пратрымалася да 1964 года, калі вёска ператварылася ў Прырэчча.

У падыходзе да змены назваў з боку партыйнага кіраўніцтва прысутнічаў і эстэтычны момант. Па загаду ўлад складаліся спісы «немілагучных» назваў, якія сталі замяняцца новымі. Асабліва інтэнсіўна гэты працэс праводзіўся ў 60-я гады. Замест вядомага з XVI ст. мястэчка Гавязна з'явілася Вішнявец (Стаўбцоўскі раён), старадаўняя вёска Пукава ператвараецца ў Камсамольскую (Капыльскі раён), а вёска Кабаны становіцца Чырвонаармейскай (Маладзечанскі раён). Вельмі даспадобы прыйшліся ўладам «садоваагародніцкія» назвы: Вінаградаўка, Вішнёўка, Рабінаўка. Але больш за ўсіх «пашанцавала» маліне. У яе гонар у адной толькі Менскай вобласці назвалі каля 30 населеных пунктаў. А як пяшчотна і мілагучна гучаць такія назвы, як Вішанька, Смародзінка, Журавінка! Калі ж дадаць да іх яшчэ Дружбу, Зараньку, Светлую, то атрымліваецца не рэспубліка, а нейкі рай. Праўда, людзям ад такіх перайменаванняў жыць не стала лепш. А галоўнае — яны згубілі часцінку сваёй гісторыі.

Цяпер запаўняюцца многія «белыя плямы» беларускай гісторыі. Яшчэ адна пляма знікне, калі вернуцца гістарычныя назвы вёсак, мястэчак, гарадоў. Гэта трэба неадкладна зрабіць дзеля гістарычнай справядлівасці, дзеля павагі да сваіх продкаў, да сваёй роднай зямлі.

Валеры ШАБЛЮК,
кандыдат гістарычных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АНБ.

*А як у добрых людзей?*

# ЗА МОРАМ ВЕНЕДСКІМ

***Сёлета ў ліпені — жніўні ст. навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Уладзімір Свяжынскі займаўся на летніх курсах шведскай мовы, якія штогод ладзіць Швецыя для замежных грамадзян. Пасля вяртання з ім гутарыў наш карэспандэнт.***

**— Спадар Уладзімір, чаму і калі Вы захапіліся шведскай мовай?**

— Я з дзяцінства цікавіўся мовамі і спрабаваў іх вывучаць. Асабліва прывабілі мяне скандынаўскія. На гэтых мовах створана цудоўная літаратура, славутыя сагі. Да таго ж Скандынавія, хоць яна і за морам, якое калісьці называлі Венедскім, звязана з намі нябачнымі ніцямі. Яшчэ не было чалавека на нашай зямлі, як пачаліся такія сувязі,— жартую, вядома, — нашы камяні, валуны прынесены ледавіком менавіта адтуль, з Смоланда, вобласці на поўдні Швецыі. Не вывучаны адносіны з старажытнымі насельнікамі «гоцкага берага», пра што сведчаць Полацкія граматы. Там гандлявалі полацкія купцы. Вялікі князь ВКЛ і польскі кароль Жыгімонт III Воса быў сынам шведскага караля Юхана III. Няшмат ведаем мы і пра ролю варагаў у нашай гісторыі. Ды трэба, каб нехта і ў Інстытуце мовазнаўства ведаў шведскую мову для этымалагічных даследаванняў, для азнаямлення з шведскай лінгвістычнай літаратурай.

**— Цяпер, відаць, Ваша аматарская цікаўнасць ужо перарасла ў навуковую?**

— Так, я ўжо мару не толькі чытаць Аўгуста Стрындберга, Аўгуста Рунеберга ў арыгінале, але маю намер стварыць шведска-беларускі слоўнік, спачатку малы, а таксама беларуска-шведскі размоўнік, каб за морам суайчыннікі маглі паразумецца з шведамі.

**— А як Вы трапілі на курсы?**

— За рэкамендацыяй Скарынаўскага цэнтра. Падборам жа кандыдатаў займаецца шведскі Дэпартамент па навуковаму абмену. Курсы былі наладжаны Шведскім інстытутам.

**— Гэта вышэйшая навучальная ўстанова?**

— Шведскі інстытут садзейнічае вывучэнню шведскай мовы ў свеце. У іншыя краіны накіроўваюць сваіх выкладчыкаў (сёлета ў Менскі дзяржаўны інстытут замежных моў прыехала выкладаць шведскую мову выкладчыца з Лундскага універсітэта Оса Берглюнд). Арганізуюцца і летнія курсы шведскай мовы на базе народных універсітэтаў, якія размешчаны па ўсёй Швецыі. Яны прызначаны для навучання людзей, якія ў свой час з-за нейкіх абставін не змаглі атрымаць агульную адукацыю. (У нас некалі дзейнічалі вячэрнія сярэднія школы.) Там навучэнцы атрымоўваюць адукацыю, якая значна шырэй, чым наша сярэдняя.

**— Нашы вячэрнія школы ўжо не існуюць... Няма, кажуць, жадаючых вучыцца.**

— За морам Венедскім зусім іншыя людзі. Праблемы ў іх іншыя. Працы хапае, заробкі высокія, тавараў і харчу колькі хочаш і калі толькі хочаш. Вось шведы і трацяць вольны час на сваю адукацыю. Народныя універсітэты адчынены ў кожным больш-менш значным горадзе. Прыкладам, той, дзе прынялі мяне, знаходзіўся ў горадзе Молюнгу, у якім усяго толькі 5 тысяч жыхароў. Ды і Шведская дзяржава не толькі клапоціцца, але і шмат зрабіла для адукацыі сваіх грамадзян. Для слухачоў народных універсітэтаў створаны ідэальныя ўмовы — толькі вучыся. Навучанне вядзецца з выкарыстаннем самых новых навучальных сродкаў, вельмі багатая універсітэцкая бібліятэка. Улетку універсітэты не працуюць і іх памяшканні выкарыстоўваюцца для курсаў шведскай мовы.

**— А жылі Вы ў інтэрнаце?**

— Гэтыя шыкоўныя кватэры немагчыма назваць так.

**— Кажуць, што на Захадзе скупа ядуць, эканомяць. Ці не хадзілі Вы галодным?**

— Слухачы курсаў карысталіся так званым шведскім сталом. Гэта — некалькі спецыяльных сталоў з падагрэвам або ахаладжваннем, застаўленых мноствам самых розных страў: ад травы, якую трэба стрыгчы сабе на талерку спецыяльнымі нажніцамі, і да разнастайных мясных далікатэсаў. Кожны бярэ сабе колькі хоча, а калі з'есць, то можа пайсці яшчэ раз.

**— Як былі наладжаны заняткі на курсах?**

— Заняткі праходзілі ў першай палове дня — чатыры гадзіны, ад снедання да другога снедання з перапынкам на каву. Заняткі праводзілі вопытныя педагогі. Яны выкарыстоўвалі багаты арсенал дыдактычных прыёмаў — творчыя дыктоўкі, дыялогі, фанаграмы. Выкладанне вялося, вядома, на шведскай мове. Кожны з нас быў забяспечаны падручнікам для іншаземцаў — «Шведская мова звонку», дзе вельмі ўдала пададзены вучэбны матэрыял з вялікай інфармацыяй пра Швецыю, які стымулюе вывучэнне мовы. Але самым важным фактарам было шведскамоўнае асяроддзе.

**— Вы вывучалі толькі мову?**

— Нас знаёмілі з гісторыяй, культурай і літаратурай Швецыі.

**— А вольны час?**

— Яго амаль не было. Методыка прадугледжвае навучанне ў вельмі цеснай сувязі з рэальным жыццём. Мы хадзілі па горадзе, гутарылі з жыхарамі, заходзілі ў крамы. Нас знаёмілі з краінай, з цудоўнай скандынаўскай прыродай. Мы хадзілі ў паход на каноэ, начавалі на востраве, ездзілі да вялікага вадаспада, у бабровы заказнік. Пабывалі і на шведскім Купаллі, якое спраўляецца падобна, як і ў нас. Тысячы шведаў у нацыянальных строях прыязджаюць у спецыяльныя месцы, дзе ўсё падрыхтавана да свята. Ёсць домікі, дзе можна спыніцца начаваць. Мы ездзілі на шведскі пікнік у спецыяльны домік на беразе ляснога возера з камінам для падсмажвання каўбасы. Да каўбасы падаюцца спецыяльныя булачкі, кетчуп і шведскае піва. У доме знарок няма электрычнага святла. Свечкі на сталах і водбліскі каміна, дзікая прырода за акном — усё гэта стварае ўражанне, якое цяжка перадаць словам.

**— Ці планавалі Вы хоць зазірнуць у шведскія архівы, дзе захоўваюцца і беларускія дакументы?**

— Планаваў. І з дапамогай адміністрацыі Молюнгскага народнага універсітэта (яны адпусцілі мяне на два дні раней і далі грошай і харчу на дарогу, каб я мог жыць у гатэлі) наведаў у Стакгольме Каралеўскую бібліятэку.

**— Ці парадуеце нашых чытачоў цікавымі знаходкамі?**

— Часу было мала, а шведы амаль не ведаюць пра Беларусь. Нават выкладчыкі курсаў пыталіся ў мяне, з якімі дзяржавамі мяжуе Беларусь, як называецца яе сталіца. А таму цяжка было давесці супрацоўнікам бібліятэкі, што я хачу ўбачыць. Але я ўсё ж трапіў у аддзел рукапісаў. У каталогу, складзеным удзельнікамі польскай навуковай экспедыцыі пад кіраўніцтвам Барвіньскага, якая шукала польскія дакументы ў шведскіх бібліятэках і архівах, пазначаны і дакументы з беларускай тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Трэба пасылаць у Швецыю спецыяльную азнаямленчую экспедыцыю.

**— Верагодна, там ёсць і нашыя старадрукі?**

— Паказалі мне выпадкова адну кнігу — інвентар горада Магілёва пачатку XVIII стагоддзя.

**— На будучае лета паедзеце зноў?**

— Абавязкова. Спадзяюся, што сярод дакументаў ваеннага і дзяржаўнага архіваў знайду і дадатковыя матэрыялы для сваёй доктарскай дысертацыі.

**— Яе тэма?**

— «Моўная сітуацыя ў Беларусі ў XIV — XVIII стагоддзях».

— Дзякую за размову і зычу поспехаў.

**Гутарыў Здзіслаў СІЦЬКО.**

*Але!*

# СУМНА...

***Вось і лета прайшло — трэцяе лета абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Але чаму пагаршаецца жыццё, чаму наша незалежнасць робіцца ўсё больш дэкларатыўнай?***

**З вытворчага аб'яднання «Беларусьгеалогія» на вуліцы Свярдлова бачны пляц Незалежнасці, дзе над гербам былой савецкай Беларусі рэе бел-чырвона-белы штандар. Але ў Доме ўрада не спыняюцца спробы парламенцкай большасці скасаваць нашы дзяржаўныя сімвалы. На жаль, на пляцы Незалежнасці няма амаль нічога, што б прапагандавала ідэю Адраджэння Беларусі. У гэтым сэнсе галоўная плошча сталіцы падае дрэнны прыклад.**

**Таму, відаць, і не дзіва, што ў чытальнай зале «Беларусьгеалогіі» на геалагічных картах — выявы герба і сцяга часоў савецкай Беларусі. А фае згаданай установы ўпрыгожвае ленінскі цытатнік, транспаранты — заклікі да сацыялістычнага спаборніцтва.**

**Сумна... І куды ні глянь — рускамоўе. Як вядома, Закон аб мовах прыняты 26 студзеня 1990 года. Але ж ён у «Беларусьгеалогіі» не выконваецца. На маё пытанне да кіраўнікоў гэтага вытворчага аб'яднання сп. Азарэнкі і сп. Маскаява, чаму справаводства дагэтуль не пераводзяць на беларускую мову, я пачула ў адказ, што тут, маўляў, інтэрнацыянальны калектыў, усе людзі прыехалі працаваць з розных куткоў былога СССР. Далей мне ўдакладнілі, што адміністрацыйнае ўвядзенне ў справаводства беларускай мовы — праява нацыяналізму, што ў дэмакратычнай дзяржаве камуністычная партыя «имеет честь не разделять националистические идеи БНФ».**

**Цікавая заканамернасць: як толькі пачнеш казаць аб неабходнасці выканання Закона аб мовах, то таварышы-кіраўнікі бяруцца за развагі аб «плюрализме мнений», о «праве русских и других народов на свой язык». У гэтых кіраўнікоў адразу з'яўляецца вялікая любоў да ўсіх іншых народаў, акрамя беларускага. Зразумела, што з боку такіх кіраўнікоў ніколі не было сапраўднага клопату аб ашчадным правядзенні геолага-вышуковых работ на тэрыторыі Беларусі, аб ашчадным спажыванні яе карысных выкапняў, нафтавых і калійных радовішчаў. Нават сякога-такога парадку ў беларускай геаграфічнай тапаніміцы няма. Паўстае, натуральна, пытанне: чаму такіх, з дазволу сказаць, кіраўнікоў не вызваляюць з адказных пасад?**

**Аналагічная карціна назіраецца і ў Беларускім навукова-даследчым геолагаразведачным інстытуце, які падпарадкаваны «Беларусьгеалогіі». Сёлета тут стала модна ездзіць у Маскву за дысертацыямі. Летам дырэкцыя цёпла вітала сакратара камуністаў інстытута тав. Калпашнікава з атрыманнем доктарскай дысертацыі. Але ці можна з даверам ставіцца да навукоўца, які свята верыць, што ў сучасным развале эканомікі краіны вінаватыя дэмакраты, а найперш тыя, што разам з Пазьняком.**

**Сумна... Бог суддзя Калпашнікаву, бо сталаму чалавеку, напэўна, цяжка змяніць свае перакананні. Але што робіцца з моладдзю інстытута!**

**У пакоі, дзе працуюць маладыя супрацоўнікі і аспіранты аддзела рэгіянальнай геалогіі, плакат з партрэтам Леніна.**

**На пытанні, ці ўтульна пад ленінскім поглядам і як успрымаюцца апошнія падзеі ў Маскве, пачула, што палітыка нікога не цікавіць. Мне сказалі таксама, што сённяшнія камуністы не з'яўляюцца злачынцамі, што марксісцка-ленінская тэорыя не прапагандуе нічога дрэннага. Падумалася: можа, у душы яны не вераць гэтым ідэям, але практычная абачлівасць падказвае ім ставіцца да гэтага так, як ставіцца кіраўніцтва. Дзіўна, што універсітэцкі і аспіранцкі курс філасофіі так і не навучыў іх бачыць законы, паводле якіх ідзе развіццё грамадства, не пераканаў у пачварнасці камуністычнай ідэалогіі.**

**І яшчэ адно назіранне. Напярэдадні сустрэчы з дэпутатамі Вярхоўнага Савета, якая праводзілася 7 кастрычніка ля Дома афіцэраў, я з сяброўкай на станцыі метро «Кастрычніцкая» раздавала запрашэнні на гэту сустрэчу. Да нас падышлі двое маладых міліцыянераў і яшчэ адзін хлопец у цывільным. Адразу прапанавалі прайсці ў аддзяленне, бо мы, маўляў, без дазволу раздаём запрашэнні. Мы адказвалі, што ў незалежнай Беларусі запрашаць выбаршчыкаў на сустрэчу з дэпутатамі Вярхоўнага Савета пакуль нікім не забаронена. Тады адзін з міліцыянераў выгукнуў: «Слава КПСС!» А потым ён нахабна выхапіў запрашэнні з маіх рук. Нам з сяброўкай нічога не засталося, як падпарадкавацца і пайсці ў аддзяленне. Там запісалі нашы прозвішчы, месцы жыхарства і адпусцілі, а запрашэнні канфіскавалі. Калі мы спрабавалі пярэчыць, казаць, што паводзіны міліцыі — парушэнне правоў грамадзян, то міліцыянеры толькі здзекліва смяяліся нам у твар.**

**Ніна БАГІНСКАЯ.**
г. Менск.

*Весткі з Віленшчыны*

## Забруіла беларуская «Крынічка»

**Гэта і кіёск-кнігарня і адначасова бібліятэка, якая пачала працаваць зусім нядаўна ў Вільні, дзякуючы намаганням ТБМ Віленскага краю. Цяжкасцей і было і зараз хапае, але галоўнае здзейснена. Беларусы-віленчукі ўжо заўважылі «Крынічку» і пацягнуліся да яе.**

**У нашай «Крынічцы» ёсць літаратура на беларускай, рускай, польскай і літоўскай мовах. Але за 80 працэнтаў — на беларускай. Тут мастацкія творы, падручнікі, слоўнікі, дапаможнікі, часопісы, газеты.**

**Чаму гэта кіёск-бібліятэка? Бо адначасова выконвае ролю выставы кніжак, што маюцца ў бібліятэцы, якая знаходзіцца па вуліцы Архітэкту, 23-79.**

**Кіёск мы прывезлі з Менску. Гэта падарунак Міністэрства інфармацыі Беларусі, за што віленчукі-беларусы вельмі ўдзячныя. Гарадскія ўлады дазволілі ўстанавіць кіёск у добрым месцы — на вуліцы Жыгіманту каля дома № 12, гэта побач з памяшканнем рэдакцыі «Наша ніва».**

**Пакуль што кіёск усё ж больш выконвае ролю выставы, бо для продажу кніжак і сувеніраў маем мала. Але ролю прапагандыста і агітатара літаратуры на беларускай мове ён ужо выконвае спраўна. Многія беларусы накіроўваюцца ў бібліятэку і пад роспіс атрымліваюць бясплатна для карыстання неабходную літаратуру, а таксама робяць заяўкі кіяскёру на набыццё ў будучым беларускіх кніжак і часопісаў.**

**Усё робіцца пакуль на грамадскіх пачатках. Праўда, ёсць надзея атрымаць у аддзеле культуры гарадскога самакіравання палову стаўкі бібліятэкара. Тым не менш «Крынічка» дзейнічае!**

**Інфармслужба ТБМ Віленскага краю.**

# ІМЯ — СЦЯГ

*Менавіта такое параўнанне прыйшло на думку, калі слухала згадкі пра жыццёвы і творчы шлях Язэпа Нарцысавіча Драздовіча — сціплага, малавядомага пры жыцці мастака.*



ВЕЧАРЫНА, што адбылася 15 кастрычніка ў Доме літаратара з нагоды 105-годдзя з дня яго нараджэння, высвеціла шматгранны талент і высакародную постаць. Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін пра яго сказаў: «Глыбінны, слынны, непазнаны». І гэта сапраўды так. Непрызнанасць, невядомасць, пакутніцтва пры жыцці — лёс не аднаго Драздовіча, а многіх з тых, хто звязаў сябе з беларускім адраджэннем, няўхільна ішоў гэтым шляхам. Для ўсіх іх характэрна бескампраміснасць жыццёвага выбару, глыбокая перакананасць у гістарычнай значнасці свайго народа, усвядомленая беларускасць. Сёння іх імёны — зарубкі на сэрцы і сцягі над галовамі.

Я. Драздовіч стартаваў у грамадскае жыццё са сцен рэдакцыі «Нашай Нівы». А гэта азначае, што менавіта супрацоўніцтва з беларускім дэмакратычным рухам і друкам на зары XX ст. паспрыяла яго духоўнаму станаўленню і далучэнню да нацыянальнай культуры. Па спосабу жыцця быў вандроўнікам. Вандраваць давялося з ранняга дзяцінства, калі памёр бацька, а маці, прадаўшы радавое «гняздо» Пунькі ў Дзісенскім павеце, пачала з дзецьмі ездзіць з месца на месца ў пошуках арэнды. Падарожжы выхоўвалі ў будучага мастака назіральнасць і любасць да роднага краю. З маленства ён захапіўся творчасцю: маляваў, ляпіў з гліны, выразаў з карэньчыкаў дрэў розныя фігуркі. Імкненне вывучыцца на мастака прывяло яго ўрэшце ў Віленскую рысавальную школу, дзе яго заўважылі, адкуль на выставу студэнцкіх работ трапілі і яго творы.

Супрацоўніцтва з «Нашай Нівай» было плённым. Ён друкуе вершы і допісы пад псеўданімам Язэп Разора, выконвае шэраг графічных работ. У 1909 г. Драздовіч афарміў «Беларускі каляндар на 1910 г.», а ў 1914 г.— зборнік паэзіі Канстанцыі Буйло «Курганная кветка». Вайсковая служба ў Саратаве і ваеннае ліхалецце надоўга адарвалі мастака ад родных мясцін. З падзелам Беларусі на Заходнюю і Усходнюю часткі Драздовіч вяртаецца ў родныя мясціны, дзе яго лёсам становіцца беспрытульнасць і вандроўніцтва. На роднай зямлі гаспадарыла ўжо Польшча, чужая, як і царызм, інтарэсам беларускага народа. Інтэлектуальны патэнцыял народнай інтэлігенцыі застаецца незапатрабаваным. Супрацоўніцтва з асяродкамі беларускай культуры (часопіс «Маланка», Беларускі музей, суполкі ТБШ, гімназіі) даюць часовы заробак, пражыць на які немагчыма. Заставалася яшчэ родная Дзісеншчына з сябрамі, сваякамі і проста добрымі людзьмі, што маглі пракарміць вандроўнага мастака за маляваны дыванок або выраблены з дрэва прадметы ўжытку. Таму, калі Драздовіча прыціскаў голад, ён наведваўся ў Германавічы, Летнікі, Шкунцікі, Наваполле, Задарожжа, Парэчча, Чарневічы, Лужкі, Кучыншчыну, Старынкі, Шаркоўшчыну, Глыбокае, Крывічы і вядома ж у Антаколле, дзе жыў яго брат Канстанты і пры якім ён, гаруючы і працуючы, мог прабавіць не адзін месяц. Калі ў горадзе бяздомны мастак працаваў дэкаратарам ці чорнарабочым за залатоўку, за кавалак хлеба або і так, то ў вёсцы ён касіў, малаціў, будаваў.

Гаворка пра жыццёвыя нягоды «дзядзькі Язэпа» на вечарыне была падмацавана цытаваннем яго дзённіка. Звернемся да гэтага дакумента і мы:

«1 студзеня 1933 г. Вільня. З Новым годам! Прыйдзі, Новы годзе, і не крыўдзі мяне нэндзай-бядою, так як папярэднія — старыя. І прынясі мне добрыя, памысныя варункі жыцця дзеля працы маёй на карысць людзям праз навуку, праз прыгожае слова і прыгожыя творы мастацтва... Праз увесь дзень сяджу дома. Сам зварыў сабе есці — паабедаў і пішу. Пішу — заканчваю свае лунныя падарожжы — «На Арыяполь».

3 студзеня. Распачаў пісаць новае апавяданне з жыцця на Месяцы «У лабірынтах Чорнай Лопаўкі». А працы на хлеб — ніадкуль нідзе не чуваць, сам не ведаю, як жыць, што далей будзець... Грошай застаецца ўсяго як схадзіць у сталоўку на два абеды. Прыходзіцца перайсці на хлеб з вадою.

7 студзеня. Дзень прайшоў дамасідна. Знайшлося б мо куды схадзіць, пакалядаваць, ды няма ў чым. Касцюм незавідзен, а галоўнае — гэта боты... цякуць...

8 студзеня. Няма адпаведных варункаў для працы. І «Жыццё на Марсе» і «Жыццё на Сатурне» і «Жыццё на Месяцы» («Трывеж», «Арыяполь», «Аўрыя») — усе яны напісаны, як кажуць, на каленях.

13 кастрычніка. Хачу зрабіць сабе моцны стол на калодзе для разьбы. Стол зроблены. Хваляць, што прыгожы. Харош для разьбы, бо крэпкі, але для пісання замал, няма як на ім локці размясціць, але пішу на ім, бо старэнькі стол аднаножны... на назе не трымаецца.

14 кастрычніка. Сягоння дзень Пакрава па старому стылю. Дзень майго нараджэння (у засценку Пунька... 1888 г.). Рад быў бы памянуць гэты дзень, ды няма чым. А ці прыйдзецца мне калі хоць бы раз адзначыць па-людску дзень нараджэння, дзень асабістага свята свайго? Беднасць... Дастаткі не пазваляюць.

Дзісеншчына. 1934 г. Ад месяца ліпеня аж да месяца верасня аддаўся дзеля развіцця ў народзе мастацкага эстэтычнага пачуцця і размалёўваю для запрашаючых на простым вясковым саматканым афарбаваным на чорнае палатне рознаўзорыстыя дываны з месячнаначнымі пейзажамі на асяродках. І пераважна каля Уліна...

Я — зменлівая натура — праз кожныя тры гады штонебудзь новае пачынаю... Тры гады я быў пастухом у падрослыя леты, а разам з гэтым пісаў вершы, паводле тагадашней маёй грамацэ. Тры гады араў ды касіў. Тры гады патраціў на мастацкую школу і агульнае сваё развіццё праз начытанасць. Тры гады мне належала служыць у салдатах, дзе й вучыўся медыцыне і прыродазнаўству. Тры гады з лішнім працаваў як фельчар. Тры гады аддаваўся грамадска-супольніцкай працы. Тры гады пісаў як пісьменнік. Тры гады аддаваўся краязнаўству і этнаграфіі. Тры гады з лішнім пабываў мастацкім педагогам. І ўжо трэці год як вандроўны мастак. Хаджу паміж Мнютай і Аутай па хатах, малюючы людзям... на сваёй Радзіме... даўгі ёй аддаю».

Як ні дзіўна, а галодныя і халодныя 20—30-я гады паспрыялі станаўленню творчай індывідуальнасці Драздовіча, разгарнулі яго шматгранны непаўторны талент. Мастакоўскім здабыткам сталі творы жывапісу і графікі, барэльефныя партрэты, скульптуры, маляваныя дываны, літаратурная фантастыка, зборы народных песень, археалагічныя знаходкі з Заслаўскіх курганоў і многае іншае. У дзённіку чытаем: «19 ліпеня. Аднёс і здаў у Беларускі музей на продаж разьбаваную скрынку сваю з калекцыяй альбомаў старасвецкага замкавага будаўніцтва на Беларусі. З 5 альбомамі: 1. Руіны Троцкага астравецкага замка. 2. Руіны Троцкага берагавога замка. 3. Руіны Медніцкага замка. 4. Руіны Лідскага замка. 5. Руіны Крэўскага замка. Планы ж замчышч з рэканструкцыяй Навагрудскага замчышча — альбом, які яшчэ не ўпарадкаваны, застаўся дома».

Моцнае ўражанне пакінуў ва ўдзельнікаў вечарыны фільм «Язэп Драздовіч» (рэжысёр В. Гайдук, кансультант А. Марачкін), які пазнаёміў з найбольш выдатнымі жывапіснымі палотнамі мастака на гістарычныя, касмічныя і рэлігійныя тэмы, з графічнай серыяй старадаўняй архітэктуры Беларусі («Глыбокае», «Мір», «Навагрудак», «Крэва», «Ліда», «Меднікі», «Гальшанскае гарадзішча» і інш.), партрэтамі Ф. Скарыны, Усяслава Чарадзея, А. Грыневіча і інш.

Пры савецкай уладзе Драздовіч не атрымлівае заслужанага прызнання. Магчыма, таму, што не стварыў нічога такога, што магло б імпанаваць партыйным ідэолагам культуры. Яго палотны па змесце і тэматыцы не ўкладваліся ў рамкі афіцыйнага мастацтва. З гэтай прычыны, на маю думку, не мог прыняць Драздовіча і Саюз мастакоў БССР — арганізацыя, якая мела на мэце «адлюстроўваць веліч нашых здзяйсненняў, глыбока і праўдзіва раскрываць воблік будаўніка камунізму». Драздовіч ігнараваўся настолькі, што яго імя, як і імя Пётры Сергіевіча, не было ўключана ў біяграфічны даведнік мастакоў Беларусі.

У наш час творчасць Я. Драздовіча вяртаецца да народа. Першым напісаў пра яго даследчык А. Ліс. Мастак А. Марачкін сабраў па дзісенскіх вёсках больш за 30 дываноў вясковага «маэстра», падрыхтаваў да друку яго «Старонкі дзённіка за 1933 г.», арганізаваў творчую выставу (1988 г.) і дапамог у стварэнні фільма пра мастака. Хутка павінен убачыць свет і альбом Драздовіча. Вечарына ў Доме літаратара стала яшчэ адным крокам на шляху адраджэння творчасці Язэпа Драздовіча. З успамінамі пра мастака выступіў народны паэт Беларусі Максім Танк. Прыгадаў віленскія сустрэчы з ім на вуліцы Завальнай і ў музеі І. Луцкевіча, а ў заключэнне сказаў: «Драздовіч дапамагае нацыі адраджацца, каб толькі адраджэнне не было чарговым, а канчатковым». Свае творы прысвяцілі мастаку, акрамя М. Танка, Рыгор Барадулін, В. Аколава, С. Панізнік, Ю. Жыгімонтаў, А. Марачкін. У. Ягоўдзік і Я. Янушкевіч звязалі свае выступленні з дзісенскім перыядам жыцця Драздовіча. Цікавае паведамленне зрабіў ад імя Згуртавання беларускай шляхты Л. Акаловіч. Ён пазнаёміў прысутных з радаводным дрэвам шляхецкага роду Драздовіча. Пачынальнікам роду быў Андрэй Драздовіч, які жыў у XVI стагоддзі. Радавы герб — ястрабец. Існуе і мастакоўскі герб Я. Драздовіча (лук і страла), намаляваны ім у 1906 г. Адзначу, што капэла «Агмень» дала выдатны канцэрт. На развітанне прагучаў аўтарскі верш А. Марачкіна:

Над ціхай Мнютай туманы, што вэлюм,
Валёры колераў вячэрняе палітры.
Прывід муроў... Сцяна маўклівых сосен.
Над рэчкай Мнютай пралятаюць зоры.
Зламаны падарожны кій... і круг завершан.
І не вяшчуе болей над Аутай
Зязюля, што яму лічыла леты.
Замкнёны куфар — ціха на планеце...

Ірына КРЭНЬ.

*Сяргей ПАНІЗЬНІК*

## Спадкі дзядзькі Язэпа

Аляксею МАРАЧКІНУ

Не паглынуў Драздовіча палын:
знайшлі яшчэ адзін аўтограф шчырасці.
Растыражыруйце яго цудоўны млын
і млынара яго разафішыруйце.

Ах, нельга?
Млын — друзы калючы ком,
а млынара — у лепшы свет паклікалі...
Растыражыруйце тады альбом
з касмічнымі муроўкамі і лікамі.

Яго планета стыне ад пакут,
нібыта Беларусь ад радыяцыі.
Растыражыруйце яшчэ не мёртвы кут:
і нашы продкі скрозь туман праявяцца.

Растыражыруйце яго «люблю...»
Адно, што не хацеў ён тыражыраваць,—
жабрацкі лёс, бязродную зямлю,
ахвоту скарбы нашы растранжыраваць.

Растыражыруйце натхнення ўзрод...
Не паўтарыць бы толькі сум Драздовіча:
«...Плыве пусты касмічны агарод
з чарнобыльскага чорнага радовішча».

▫▫▫

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
## ў пытаннях і адказах

### Хто заснаваў кнігадрукаванне ў Маскве?

Кнігадрукаванне ў Маскве заснавалі нашыя таленавітыя продкі — Пётра Мсціславец ды Іван Федаро́віч (Фёдараў). Першы, як відаць з яго прозвішча, паходзіў з горада Мсціслава, а другі, на думку аўтарытэтных даследчыкаў, належаў да беларускага шляхецкага роду, што меў герб «Шранява».

Невымерная заслуга П. Мсціслаўца і І. Федаровіча ў тым, што яны першымі ў Маскоўшчыне надрукавалі ў 1564 годзе Апостал, а яшчэ праз год — два Часоўнікі, адкрыўшы такім чынам новую старонку ў гісторыі маскоўскай культуры, далучыўшы нашых усходніх суседзяў да аднаго з найважнейшых дасягненняў еўрапейскай цывілізацыі — кнігадрукавання. Вельмі паказальны і той факт, што ўсё друкарскае начынне нашы асветнікі прывезлі ў Маскву з радзімы. Гэта засведчыў тагачасны ангельскі пасол у Маскве Джыльс Флэтчар, які ў адным з сваіх твораў зазначыў, што друкарскі варштат і літары былі прывезеныя ў Маскву.

На жаль, кансерватыўнае маскоўскае духавенства ды неасвечанае баярства варожа сустрэлі пачынанні беларускіх асветнікаў, яны абвінавацілі нашых суайчыннікаў у «пашырэнні ерасі». Вынік гэтых беспадстаўных паклёпаў не прымусіў доўга чакаць. У 1566 годзе раз'юшаны натоўп, падбухтораны шматлікімі непрыяцелямі П. Мсціслаўца і І. Федаровіча, дарэшты разбурыў іхную друкарню і ледзьве не расправіўся з яе гаспадарамі. Убачыўшы, што ў Маскве яшчэ не саспелі ўмовы для ўспрыняцця друкаванага слова, яны вымушаныя былі вярнуцца на радзіму. Тут, вядома, ім не давялося доўга сядзець без справы. Беларускі магнат Рыгор Хадкевіч, які даўно марыў аб адкрыцці ўласнай друкарні, запрасіў П. Мсціслаўца і І. Федаровіча да сябе ў мястэчка Заблудаў (цяпер Беластоцкае ваяводства ў Польшчы).

Дзякуючы падтрымцы паеўрапейску адукаванага гетмана Р. Хадкевіча, друкары ўтварылі ў Заблудаве літаратурна-выдавецкі гурток, плёнам дзейнасці якога сталіся ўнікальнае Евангелле вучыцельнае (1569) і Псалтыр з Часаслоўцам (1570).

Пазней шляхі П. Мсціслаўца і І. Федаровіча разышліся. Мсціславец пераехаў у Вільню, дзе з дапамогаю Мамонічаў заснаваў новую друкарню і падрыхтаваў яшчэ тры шыкоўныя выданні — Часоўнік (1574—1576), Евангелле напрастольнае (1575) і Псалтыр (1576). І. Федаровіч накіраваўся ў Львоў, дзе ў 1574 годзе выдрукаваў Апостал і «Азбуку». Затым ён перабраўся ў Астрог да князя Канстанціна Астрожскага (сына славутага гетмана). Там ён выдаў яшчэ адну «Азбуку» (1578), Псалтыр і Новы Запавет (1580), «Хранагогію» нашага таленавітага паэта Андрэя Рымшы і славутую Астрожскую Біблію 1581 года, якая сталася агульнапрызнаным сімвалам небывалага росквіту ўсходнеславянскай культуры эпохі Адраджэння.

Іван САВЕРЧАНКА.

### Чаму нашы магнаты пакідалі праваслаўе і пераходзілі ў каталіцтва?

Усходні (пазней — «праваслаўе») і заходні (пазней — «каталіцтва») абрады з другой паловы X стагоддзя з моманту прыняцця хрысціянства на Беларусі існавалі ў нас паралельна. Гэтае суіснаванне наклала асаблівы адбітак на ментальнасць і культуру нашага народа, абумовіўшы наяўнасць некаторых «заходніх» рысаў нашага праваслаўя і «ўсходніх» у нашым каталіцтве. Спалучэнне гэтых дзвюх магутных традыцыйных плыняў датычыць не толькі ўсяе культуры, але кожнага паселішча (праваслаўны і каталіцкі храм на адной плошчы), кожнае сям'і (адзін сужэнец — праваслаўны, другі — каталік), кожнае асобы (прыманне і талеранцыя іншага веравызнання, прызнанне ягонай слушнасці). Гэткая «двуеднасць» і спалучэнне двух пачаткаў, іхнае ўзаемапранікненне прывяло з часам да спробаў збліжэння дзвюх канфесіяў і ўзнікнення вуніі.

Здольнасць бачыць ісцінасць у іншай канфесіі, спасцігаць еднасць па-за рознасцю, разуменне таго, што і каталікоў і праваслаўных яднае вялікая ахвяра Хрыста — усё гэта дазваляе думаць, што пераход з аднае канфесіі ў другую звычайна не ўспрымаўся як адыход ад веры бацькоў. Відаць, гэтак жа памяркоўна ставіліся даўней да змены паганства на хрысціянства і наадварот.

Частка беларускіх магнацкіх і шляхецкіх родаў прыйшла ў каталіцтва непасрэдна з паганства яшчэ ў часе першых місіяў і навяртанняў XI—XII стагоддзяў. У 1252 годзе разам з каранаваным навагародскім каралём Міндоўгам хрысцілася 300 беларускіх паганскіх нобіляў. Падчас другога агульнага «Ягайлавага хросту» ў 1387 годзе ў каталіцтва навярнулася яшчэ большая колькасць паганскае знаці.

Заняпад гандлёвага шляху «з варагаў у грэкі», які праходзіў праз землі Беларусі, падзенне астоі праваслаўя — Канстанцінопаля абумовілі пераарыентацыю палітыкі нашых валадароў на больш шчыльныя сувязі з заходнімі краінамі. І для адукаванае часткі знаці, асабліва з часоў Міндоўга і Вітаўта, значна больш прыцягальным сталася каталіцтва. У пэўныя перыяды гэтаму спрыялі і прывілеі, якія даставала каталіцкая шляхта Вялікага Княства.

Яшчэ болей заходнія сімпатыі ўзмацніліся ў часе войнаў Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўскаю дзяржаваю, асабліва ў XVII стагоддзі, калі маскоўскія войскі вынішчалі на Беларусі і каталікоў, і вуніятаў, і праваслаўных, катуючы нават праваслаўнае духавенства. Тым часам духовая залежнасць беларускіх праваслаўных ад Маскоўскае патрыярхіі давала падставу Маскоўіі для ўмяшання ва ўнутраныя справы Беларусі, да маніпуляцыі настроямі праваслаўных вернікаў у Княстве, што змушала нашую дзяржаву да спрыяння каталіцтву і заахвочвання каталіцкае шляхты.

Алесь ЖЛУТКА.

### Якое месца ў нашай гісторыі займае Сцяпан Батура?

Сцяпан Батура (1533—1586) — увайшоў у беларускую гісторыю як адзін з самых моцных і дзейных вялікіх князёў. Паходзіў ён з роду Баторыяў Шомлё і быў сынам трансільванскага (ці, як казалі тады, сямігародскага) ваяводы. У 1571 годзе Батуру абралі князем Трансільваніі (цяпер тэрыторыя Румыніі). У 1576 годзе Сцяпан Батура каранаваўся ў Вільні на вялікага князя.

У беларускай гісторыі Сцяпан Батура ўславіўся перадусім як палкаводзец. Войска пад яго кіраўніцтвам правяло шэраг паспяховых аперацый па вызваленні земляў Беларусі, захопленых Маскоўшчынай на пачатку Інфлянцкай вайны. У 1579 годзе быў вызвалены Полацк, які 16 гадоў знаходзіўся пад акупацыяй.

Вядомы Сцяпан Батура і як рэфарматар, тонкі дыпламат ды мецэнат навукі. Яго дбаннем ў 1581 годзе быў утвораны, а з 1582 года пачаў дзейнічаць так званы Галоўны трыбунал — найвышэйшы апеляцыйны суд Вялікага Княства Літоўскага. Падчас княжання Сцяпана Батуры, у 1579 годзе, была заснаваная Віленская акадэмія, а праз год — Полацкі калегіум.

Пасля смерці Івана IV Жахлівага Сцяпан Батура выношваў планы авалодання Маскоўскай дзяржавай і рыхтаваў буйны паход «праз Маскву на Турэччыну». Але гэтыя планы засталіся няздзейсненымі, бо неўзабаве ён памёр.

Павел ЛОЙКА.

*Да 170-годдзя Паўла Шпілеўскага*

# Жыццё прысвяціў Беларусі

Да нядаўняга часу пра гэта імя мала ведалі нават спецыялісты. Між тым Павел Міхайлавіч Шпілеўскі (1823—1861) — беларускі этнограф, пісьменнік, журналіст і мовазнаўца — пакінуў значны след у развіцці нашай нацыянальнай культуры. Дастаткова адзначыць, што толькі працягам 1853—1860 гадоў ён надрукаваў у дваццаці васьмі нумарах папулярных сталічных часопісаў («Современник», «Пантеон», «Москвитянин», «Иллюстрация») свае грунтоўныя этнаграфічныя нарысы, прысвечаныя Беларусі. Павел Шпілеўскі з'яўляецца таксама аўтарам зборніка «Беларускія прыказкі» (1853 г.), аповесці «Цыганё», п'есы «Дажынкі» (створана па матывах «Ідыліі» В. Дуніна-Марцінкевіча). Можна без перабольшвання сказаць, што ў тагачаснай рускай перыёдыцы Павел Шпілеўскі годна прадстаўляў Беларусь — сваю Бацькаўшчыну. Ён стаў першым, хто на старонках рускага перыядычнага друку адкрыта загаварыў ад імя беларусаў. Нагадаем, што на тэрыторыі Беларусі тады абмежаваным накладам выдавалася толькі пяць мала цікавых афіцыйных газет «Губернские ведомости», а часопісаў зусім не было. Увогуле ў мінулым стагоддзі ніхто, відаць, больш за Шпілеўскага не напісаў пра нашу краіну.

Асаблівае захапленне Паўла Шпілеўскага — родная мова. У адрыўным беларускім календары на сёлетні год слушна падкрэслена, што ў сваіх этнаграфічных працах ён «прыводзіў многа цікавых звестак аб лексічных, фразеалагічных, фанетычных і граматычных асаблівасцях беларускай мовы, выказваў арыгінальныя... думкі аб яе паходжанні, спрабаваў высветліць этымалогію некаторых беларускіх слоў». Роднай мове Шпілеўскі прысвяціў і тры спецыяльныя даследаванні: «Краткая грамматика белорусского наречия», «Словарь белорусского наречия» (1845 г.) і «Заметки белорусца о белорусском языке» (1853 г.). Заўважце эвалюцыю аўтара: у першых выпадках гаворка ідзе толькі аб «белорусском наречии», у апошнім — ужо аб беларускай мове. Дарэчы, гэта — не выпадковасць. У сваім лепшым творы «Путешествие по Полесью и Белорусскому краю» (упершыню надрукаваны ў часопісе «Современник» у 1853—1855 гадах, летась выпушчаны асобнай кніжкай выдавецтвам «Полымя») ён ужо цвёрда і адназначна лічыць роднае слова не мясцовай гаворкай, не тутэйшым дыялектам, а гістарычнай, адвечнай мовай беларускага народа, якая з'яўлялася «афіцыйнай мовай літоўскага двара і ўрада яшчэ ў часы паганства. Літоўскі Статус, помнік надзвычай важны для гісторыі нашага заканадаўства... напісаны на гэтай самай мове, якая яшчэ на зыходзе XVII стагоддзя ўжывалася ў дакументах... На беларускай мове напісаны і Літоўская Метрыка і Акты Кіеўскага суда». Да слова, згаданыя мовазнаўчыя працы Паўла Шпілеўскага не публікаваліся. Зараз яны захоўваюцца ў рукапісным аддзеле Расійскай АН у Санкт-Пецярбургу і, з'яўляючыся помнікамі гісторыі беларускага мовазнаўства, абавязкова павінны вярнуцца на Бацькаўшчыну.

Пагартаем старонкі біяграфіі гэтага выдатнага чалавека, чыё жыццё было непадзельна прысвечана Беларусі.

У Нацыянальным гістарычным архіве рэспублікі зберагаецца справа «Метрическая книга Бобруйского повета за 1823 год». У кнізе пад датай 31 кастрычніка (па старым стылі) чытаем: «...у шыпілавіцкага свяшчэнніка Міхаіла Шпілеўскага і яго жонкі Еўдакіі Васільеўны нарадзіўся сын Павел». Калыскай для Паўла Шпілеўскага стала Міншчына. Менавіта тут прайшло першае дваццаціголдзе жыцця. Дзіцячыя гады ён правёў у Ігумені, куды неўзабаве пасля нараджэння сына перавялі служыць бацьку. У павятовым Слуцку і губернскім Мінску Павел Шпілеўскі вучыўся ў семінарыі. Пазней ён паспяхова скончыў Пецярбургскую праваслаўную духоўную акадэмію, некаторы час быў выкладчыкам славеснасці ў Варшаўскім духоўным вучылішчы. З 1853 года стала жыў у Пецярбургу, працаваў наглядчыкам у Галоўным педагагічным інстытуце, дзе аказаў пэўны ўплыў на фарміраванне светапогляду тады маладога студэнта гэтага інстытута Мікалая Дабралюбава. Праз два гады Шпілеўскі — настаўнік школы пры экспедыцыі дзяржаўных папер.

Свой першы этнаграфічны артыкул «Белорусские поверья» Шпілеўскі надрукаваў пад псеўданімам «П. Древлянский» у літаратурных дадатках да «Журнала Министерства народного просвещения» ў 1846 годзе, калі яшчэ быў студэнтам. Потым яго этнаграфічныя даследаванні, прысвечаныя Беларусі, часта друкаваліся ў лепшых пецярбургскіх і маскоўскіх часопісах, выходзілі асобнымі кніжкамі. Шырокую вядомасць аўтару прынесла «Путешествие по Полесью и Белорусскому краю» — своеасаблівае гісторыка-этнаграфічнае эсе, бліскуча выкананае ў форме найцікавейшых дарожных нарысаў і замалёвак. «Путешествие...» не страціла сваёй каштоўнасці і сёння, амаль праз паўтара стагоддзя пасля стварэння. Чытаеш гэты самабытны твор — і ад старонак не адарвацца. Дагэтуль «Путешествие...» П. Шпілеўскага займае адметнае месца ў беларускай літаратуры. Ёсць толькі адзін сучасны твор, які жанрава і па займальнасці можна паставіць побач з «Путешествием...». Маецца на ўвазе цудоўнае эсе Уладзіміра Караткевіча «Званы ў прадоннях азёр». Як бачым, вартасць твораў Паўла Шпілеўскага аказалася не падуладнай часу.

А гэта толькі падкрэслівае, што творчую спадчыну аўтара трэба як мага хутчэй неадкладна перавыдаць на Бацькаўшчыне ў поўным аб'ёме. Яна, безумоўна, таго заслугоўвае!

Мар'ян ВІЖ.




*Рубрыку вядзе*

*ЛЯВОН БАРШЧЭЎСКІ*

«Найчысцейшым святым румынскага верша» называюць на радзіме, у Румыніі і Малдове, Міхая Эмінэску (1850—1889).

*Міхай ЭМІНЭСКУ*

## О, мама...

О, мама дарагая, мяне з імглы вякоў,
Салодкая, гукаеш маркотаю лістоў;
Па-над святой магілай, дзе спынена жыццё,
І восенню, і ветрам асыпана лісцё,
Галіны б'юцца, чуюць твой голас з нематы...
І вечна будуць біцца, спаць вечна будзеш ты.

Калі памру, ля скроні не плач каля маёй;
Сарві галінку ліпы салодкай і святой,
У галавах галінку ты пасадзі пры ўсіх,
Каб на яе спадалі крапліны воч тваіх;
Адчую, як магілу маю пачне ўцяняць...
Расці цень будзе вечна, я вечна буду спаць.

А давядзецца разам памерці нам, тады
Хай толькі не нясуць нас на сумныя клады,
На беразе ракі нам хай вырыюць адну
Магілу, пакладуць хай нас у адну струну;
Навек ты застанешся са мной, як багадаць...
І плакаць вечна будзе вада, мы — вечна спаць.

Пераклад з румынскай
Рыгора БАРАДУЛІНА.

## З паэмы «Лучафэр»

Жыла ў далёкія часы —
Спрадвеку тут, напэўна,—
Дзяўчына боскае красы,
Патомная царэўна.

Расла адна: на свеце ёй
Амаль ніхто не роўня —
Ні сонца досвітнай парой,
Ні ў зорным небе поўня.

І кожным вечарам яна
Выходзіла з-за люстраў
Да проймы золкага вакна
Лучафэру насустрач.

Глядзела ў даль, дзе зноў і зноў
Трымцеў ён зіхатліва
І караваны караблёў
Па промні вёў імкліва.

За ноччу ноч, міналі дні —
У сэрцы сум хаваўся,
І сам Лучафэр з вышыні
Ў царэўну закахаўся.

Калі ж да самага відна
Ў палоне летуценняў
Пра зорку марыла яна, —
Знікалі здані-цені.

Ён, узіраючыся ўніз,
Неміласэрна блішча,
Ледзь толькі ўбачыць між байніц
Яе ў вакне аблічча...

Пераклад з румынскай
Міколы ФЕДЗЮКОВІЧА.

*Мама, пачытай!*

Міхась СКОБЛА

### Жыраф

Сніў жыраф чароўны сон:
вой, куды патрапіў ён?

Мыўся ў рэчцы, нібы ў ванне,
бегаў з сябрам па саванне.

А ўначы яму на нос
з пальмы важкі ўпаў какос.

І жыраф з балюшчым носам
ваяваў у сне з какосам.

Тузаў пальму ён за косы,
пастрасаў усе какосы
і закінуў на нябёсы!



### Слонік

Слонік тупаў па вальеры,
мацаў хобатам, дзе дзверы.

Не схацеў ён жыць на поўдні,
дык не хоча і ў Гародні.

Ані ў Менску,
ані ў Слуцку —
хоць там можна жыць па-людску.

І не хоча ў Белавежы,
хоць і там хапае ежы.

Слонік моўчкі сеў на ўслоне,
як сказаць без слоўніка:
— Слонік я, хачу я ў Слонім —
пашкадуйце слоніка!



### Леў

Леў на ветры закалеў,
захацеў у цёплы хлеў.

А карова: — Му-му-му.
Малака не дам яму.

А кабанчык: — Рох-рох-рох.
Лыч наставіў, нібы рог.

Шарык гнеўна грыз ланцуг:
— Гэй, ганіце валацуг!

Толькі певень прамаўчаў —
шпоры ён тачыць пачаў.

Ледзь ад страху не самлеў
і вярнуўся ў клетку леў.



### Кенгуру

Скача хлопчык-кенгуру,
скок — убок, пасля — ўгару.

Цэлы дзень вось так мінае.
Скача, маме замінае.

Трэба хату ёй падмесці,
згатаваць усім пад'есці.

Неслух гойсае па хаце.
Зазлавала ўрэшце маці —

надаваўшы у каршэнь,
пасадзіла у кішэнь.



### Барсук

Рана-раненька барсук
футру вешае на сук.

Даглядае,— гэткі зух,—
паласаты свой кажух.

Хто замерз — давай прасіць —
мо дазволіць панасіць?



*Вечарыны*

## Прысвечана Наталлі Арсенневай

12 кастрычніка ў Маладзечанскай гарадской бібліятэцы імя Максіма Багдановіча адбылася вечарына, прысвечаная творчасці Наталлі Арсенневай.

Кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН РБ Лідзія Славік расказала прысутным пра жыццёвы і творчы шлях знакамітай беларускай паэткі, якая цяпер жыве ў ЗША. Потым шчыра і зацікаўлена былі абмеркаваны значныя творчыя здабыткі нашай суайчынніцы. Дэкламатары Т. Трафімава, Н. Ястраб, Г. Еўдакімчыкава прачыталі вершы паэткі розных гадоў, а бібліятэкар М. Кароль зрабіла агляд прысвечанай творчасці Н. Арсенневай выставы друкаваных выданняў, якая была наладжана на вечарыне.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.
г. Маладзечна.

*Падручнікі*

## Вышэйшая матэматыка па-беларуску

Нацыянальнае Адраджэнне Бацькаўшчыны сёння нельга ўявіць без значнага пашырэння беларускасці ва ўсіх галінах асветы і адукацыі. Роднае слова абавязкова павінна заняць сваё пачэснае месца ў школах, ва ўсіх ВНУ. Толькі тады, калі выкладанне навучальных дысцыплін у сярэдняй і вышэйшай школе стане цалкам беларускамоўным, можна будзе лічыць, што адукацыя ў рэспубліцы набыла нацыянальнае аблічча. Дарэчы, вопыт лепшых настаўнікаў і выкладчыкаў ВНУ, якія ў сваёй паўсядзённай рабоце ўжо паспяхова перайшлі на дзяржаўную мову нашай краіны, канчаткова развеяў ілжывы міф, што беларуская мова з'яўляецца нібыта малапрыдатнай для вывучэння шэрагу дысцыплін, у першую чаргу — так званых дакладных навук. Каб назапашаны станоўчы вопыт перадавікоў стаў шырокім здабыткам студэнтаў і выкладчыкаў, патрабуюцца новыя, беларускамоўныя падручнікі. У гэтым накірунку апошнім часам шмат што робіцца. Так, выпушчаны новыя беларускамоўныя школьныя падручнікі па гісторыі і геаграфіі Беларусі, тэрміналагічныя слоўнікі па некаторых прадметах, якія вывучаюцца ў ВНУ. Але прыродазнаўчыя і тэхнічныя навукі ў большасці выпадкаў традыцыйна пакуль што выкладаюцца па-руску, хоць маюцца ўжо падрыхтаваныя да друку новыя падручнікі па адпаведных дысцыплінах. У ліку іх — курс «Вышэйшая матэматыка» (часткі 1 — 3, аўтары В. Русак, Л. Шлома, В. Ахраменка, А. Крачкоўскі).

Згаданы падручнік прызначаецца студэнтам нематэматычных спецыяльнасцей універсітэтаў, тэхнічных ВНУ і педагагічных інстытутаў. Скарыстаная аўтарамі спецыяльная тэрміналогія поўнасцю адпавядае матэматычным тэрміналагічным слоўнікам, якія неўзабаве ўбачаць свет. Змест першай — трэцяй частак «Вышэйшай матэматыкі» летась паспяхова прайшоў апрабацыю на фізічным факультэце БДУ і Менскім радыётэхнічным інстытуце. Паралельна з гэтым падручнікам аўтарскі калектыў зараз рыхтуе да друку беларускамоўны зборнік задач па вышэйшай матэматыцы.

Тэрмінова заказаць першую частку згаданага падручніка можна праз бібліятэкі навучальных устаноў (у тэмплане «Вышэйшай школы» на 1994 год падручнік авансаваны пад нумарам 16).

М. В.

*Чыталі?*

## «ТЭАТРАЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ», № 5

«Гэта п'еса ўжо мае сваю гісторыю. Першы варыянт яе быў напісаны дваццаць гадоў назад. Паслаў у тэатры, у адказ — маўчанне. Я ўжо ведаў на сваім вопыце, што рэжысёры нашых тэатраў мала цікавяцца беларускай драматургіяй, для адчэпу маюць адзін-два спектаклі па творах нацыянальнай драматургіі — і ўсё...» — так піша ва ўступным слове да сваёй п'есы «Чабор» Леанід Левановіч, творам якога адкрываецца «Тэатральная Беларусь». Палемічныя нататкі пра сучасную рэжысуру «Безназоўнае» прапануе чытачам Рычард Смольскі. Вячаслаў Грыбайла распавядае пра першы дзень Міжнароднага фестывалю лялечнікаў у Менску, а далей пра гэту падзею дзеляцца сваімі думкамі Вераніка Козел, Ала Савіцкая і Вольга Нячай. «Ці доўга пражывём на бацькоўскіх пасевах?» — такое пытанне задае сваім артыкулам «Аматарскае. Прафесійнае. Народнае» Алена Падабед, разважаючы над праблемамі духоўнага адраджэння нашага народа. Пра гуканне вясны піша Яўген Адамовіч у нататках «Ой, вясна-маці, хадзі к нам гуляці!», а Вольга Нячай — пра прэм'еру спектакля «Цар Ірад» у Дзяржаўным тэатры лялек.

Шмат у часопісе інфармацыі з тэатральнага жыцця Беларусі і здымкаў са спектакляў, якія ідуць на сцэнах нашай краіны.

Н. К.



На ўсёй Віцебшчыне ведаюць матырынскую фальклорную групу з Ушацкага раёна.
НА ЗДЫМКУ: матырынская фальклорная група (злева направа): Лізавета Салаўёва, Валянціна Шалак, Ганна Холад, Надзея Рудзянок, Зінаіда Аўласенка і Зінаіда Рудзянок.

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ,
Белінфарм.

# Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, «НАША СЛОВА»!

**З 1 верасня пачалася падпіска на беларускую перыёдыку на 1 квартал 1994 года. Падпісная цана на наш штотыднёвік (з улікам паслуг сувязі)**
**на 1 месяц — 60 рублёў;**
**на 3 месяцы — 180 рублёў;**
**Індэкс 63865.**

**Заставайцеся з намі — не пашкадуеце. «Наша слова» — гэта Ваша газета, і яе не заменіць ні адно іншае выданне. Выпісвайце і чытайце «Наша слова»!**

*Перадрук*

*14 кастрычніка ў газеце «Звязда» была аднародавана паэма-размова «Гэй, наперад! Гэй, назад!» Базыля Раскапэнды-Бабэцкага. Рэдакцыю «Нашага слова» яна зацікавіла, і найбольш месцы, у якіх гаворыцца пра мову. Спадзяёмся, што спадар Базыль на нас не пакрыўдуе за самавольны перадрук, таму і прапануем нашым чытачам урывак з яго твора.*

*Базыль* **РАСКАПЭНДА-БАБЭЦКІ**

## Карп з Міра

— Што датычыць нашай мовы —
Раю вам, усёй гурбе,
Пачытаць трактат «Асновы
Дэмагогіі ў РБ».
Гэта — курс у дапамогу
Самавукам: чым і дзе
Лудзіць горла дэмагогу,
Каб патрапіць грамадзе.
Вэдлуг мовы аўтар вывеў
Дзесяць тыпаў крыкуноў,
Што гатовыя ў парыве
Нас падсекчы з каранёў;
Што шукаюць і «знаходзяць»
Факты-доказы таго,
Дзе і як народу шкодзіць
Мова ўласная яго.
Першы тып — найбольш шматлікі:
«Мову — знаць? Які рэзон?
Я, пардон, не без'языкі —
Бескаўбасны я, пардон!..»
Тып другі: «Я сам са Шклова,
Жонка ж руская, з Мінвод.
Ёй нялюба наша мова.
Што ж мне — з ёю браць развод?»
Трэці тып: «А як з культурай?
Даць тутэйшай мове чын —
Гэта будзе авантурай!
Застанецца дух ні з чым!»
Тып чацвёрты: «А навука?
То ж смяротны ёй прысуд!
На радзіме Джэймса Кука
Беларускай — а ні ў зуб!»
Пяты... Зрэшты, хопіць. Годзе!
Пачытайце самі лепш...
Цяжка мове на ўзыходзе,
Дзе сумленне выеў клешч.

## Зося з Росі

— Цяжка, горка слухаць, людзі,
Як мы плачамся сабе.
З плачу мовы не прыбудзе.
Трэба думаць аб сяўбе.
Ёсць народ — жывы, славянскі,
Самабытны — з роду ў род.
Хай паходжаннем сялянскі,
Земляробскі, ды — народ!
Ёсць свой твар, сваё аблічча,
Свой уласны стыль і лад.
Хто ж цяпер усё на клычча
Хоча склычыць? Казнакрад?
Хто, які шайтан-антыхрыст
Намагаецца ўсяляк,
Каб душу народа выгрыз
Духажэрны смоўж-чарвяк?
А грызе! За словам — слова!
Колькі ж будзем мы трываць?
Мова — нацыі аснова.
Мову трэба ратаваць!..

## Ева з Крэва

— Заклікаюць нас да згоды.
Ну, выдатна! Хто ж супроць?
Згода ўсіх — залог свабоды.
Мова — дух яе і плоць.
На якой жа мове будзем
Сабіраць народ у гурт?
На чужой? І што здабудзем?
Гэта — нонсэнс і абсурд!
Божа мілы! Так належна
І не ўцямілі браты,
З-за чаго, чаму на межах
Сёння мытні і драты.
Ды з-за мовы — першым чынам!
З-за таго, што не далі
У Саюзе ўсім Айчынам
Мець свой голас на зямлі.
Пры казарменным рэжыме —
Будзем шчыра гаварыць —
Нас, увесь народ рашылі
У нямкоў ператварыць.
Паў рэжым. І збегла варта.
Ну, пара ж адчуць урок!
Не — і сёння гнуць упарта
Тое ж глупства ў той жа бок!..

## Хведзька з Клецка

— Супраць мовы імем д'ябла
Утварылі цэлы рух —
Каб яна хутчэй аслабла
І спусціла ўрэшце дух.
«Не дабілі пры генсеках,
Фараонах і царквах —
Дык даб'ём цяпер пры чэках,
З капіталамі ў руках!»
Колькі злосці з іх паперла!
Як то кажуць: проста жуць!
Толькі... скулу ім у горла,
А не мову праглынуць!
Аднаго не разумею:
Мы — дзяржава ці карчма?
Хто вядзе ў нас асамблею?
Ёсць мужы там ці няма?
Я пытаю вас, гвардзейцы,
Раз'ядры вас растуды!
Вы — Радзімы нашай дзеці?
Ці — архараўцы з Арды?
Вы, набраўшы сілы-моцы
На скарынаўскай зямлі,
Дзе, адкуль глухой дрымоты
У душу сабе ўзялі?
Найкаштоўны скарб Айчыны
Меней люб вам, як чужы!
Гістарычнай далячыні
Вы не бачыце, мужы!
Праматаеце дзяржаву
(Выбачайце рэзкі стыль) —
Вашу службу, вашу славу
Дзеці выкінуць ва ўтыль!
Гэта я вам, Хведзька з Клецка,
Гавару. А хто ж яшчэ!
Баязлівец з малалецтва
Праўдай вас не прыпячэ.

### ДА ВЕДАМА НАШЫХ НЯШТАТНЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ

*Паведамляем, што рэдакцыя «Нашага слова» прымае ад сваіх няштатных карэспандэнтаў кароткую разнастайную інфармацыю з дзейнасці суполак ТБМ імя Ф. Скарыны, а таксама з культурнага і грамадскага жыцця нашай краіны. За ўсе надрукаваныя матэрыялы аўтарам выплачваецца ганарар, акрамя ўсяго, найбольш актыўным карэспандэнтам прадугледжаны прэміі.*

## Народная лякарня

*Д. ДЖАРВІС: Калій і вадкія выдзяленні*

*Працяг. Пачатак у № 44.*

Вялікае значэнне мае вывучэнне сувязі калію з жалезам, кальцыем і натрыем. Пры назіранні за раслінамі, у прыватнасці за кукурузай, заўважаецца, што пры недахопе калію ў глебе яны хварэюць карнявой гніллю, іх пашкоджваюць патагенныя грыбкі і плесня. Прычым у расліны з'яўляюцца прыкметы закупоркі сасудаў чырванаватым асадкам, які парушае цыркуляцыю пажыўных сокаў. І наадварот, калі ў глебу ў дастатковай колькасці ўносіцца калій, расліны вырастаюць высокімі і здаровымі. Доследы паказалі, што закупорку сасудаў раслін выклікае жалеза. У сувязі з гэтым напрошваецца пытанне: ці не могуць лімфатычныя сасуды ў арганізме чалавека і жывёл закупорвацца аналагічным чынам? Ці адкладаецца жалеза ў лімфатычных поласцях, вузлах і розных органах? Ці павышаецца верагоднасць паражэння арганізма чалавека і жывёлы грыбковымі і іншымі шкоднымі мікраарганізмамі пры недахопе калію? Ці залежыць імунітэт арганізма ад асноўнага мінеральнага балансу, калі размова ідзе пра інвазіі (заражэнні) і інфекцыі?

Д. Джарвіс правёў доследы над статкам кароў, многія з якіх пакутавалі ад грыбковых захворванняў і іншых шкодных мікраарганізмаў. Ветэрынарнае абслугоўванне жывёл абыходзілася гаспадарцы дорага. Кароў пачалі лячыць каліем. На працягу 14 месяцаў яны атрымлівалі з сутачным рацыёнам 4 унцыі (прыблізна 28,7 г) яблычнага воцату. Больш не спатрэбіліся паслугі ветэрынара. Відавочна, дабаўка ў корм калію садзейнічала стварэнню ў арганізме жывёлы асяроддзя, якое выключала інфіцыраванне патагеннай флорай.

Пры вывучэнні сувязі калію з кальцыем былі праведзены доследы на каровах, у якіх распухлі суставы ног і яны цяжка кладліся і падымаліся. Пры лячэнні каліем (2 унцыі яблычнага воцату штодзённа) хворыя жывёліны на працягу года выздаравелі і прыбавілі малака.

Каб пазбавіцца ад запалення суставаў (артрыту) і астэахандрозу, народная медыцына рэкамендуе прымаць па 10 чайных лыжачак яблычнага воцату на шклянку вады за кожнай ядой на працягу месяца (фабрычны яблычны воцат не прыдатны для лячэння). Пастулова боль у суставах, а таксама ў тыльнай частцы шыі і патыліцы праходзіць разам з запаленчым працэсам.

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**10 ЛІСТАПАДА, СЕРАДА**

13.30. Навіны.
15.55. Для школьнікаў. «Гімназія... У пошуках шляхоў».
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
19.40. ТА «Рэха». Рэйтынг.
20.10. Мост. Культурна-асветніцкая праграма.
21.00. Панарама.
23.15. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**11 ЛІСТАПАДА, ЧАЦВЕР**

13.30. Навіны.
15.15. Процістаянне. Маральна-прававая праграма.
16.55. Тэлебачанне — школе. Геаграфія Беларусі. IX клас.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
21.00. Панарама.
22.45. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**12 ЛІСТАПАДА, ПЯТНІЦА**

12.55. Роднае слова. Тэлечасопіс.
13.40. Якуб Колас. «Імяніны». Тэлеспектакль.
15.45. Тэлебом. Гала-канцэрт.
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
21.00. Панарама.
23.15. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.


Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае

Індэкс 63865. Зак. 296.

МВПА імя Якуба Коласа,
Менская паліграфічная фабрыка
«Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

Наклад 7329 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 8.11.1993 г. у 15 гадзін.